ЛІДЭР

## У чаканні харызматыка

Бліжэйшым часам з'яўлення ў Беларусі новай харызматычнай асобы як са стану апазіцыі, гэтак і з улады чакаць не варта. Такое меркаванне падчас дыскусіі 24 лістапада на міжнароднай канферэнцыі «Беларусь пасля выбараў: неабходнасць пераменаў (эканоміка, палітыка, бяспека, ідэнтычнасць)», якая праходзіць у Мінску, выказаў кіраўнік сацыялагічнай лабараторыі «Новак» Андрэй Вардамацкі.

Паводле яго словаў, «гэта пытанне нацыянальнага шанцавання». З'яўленне ў Беларусі новага лідэра – гэта праблема беларускага менталітэту, зазначыў Вардамацкі. Паказчыкам гэтага менталітэту, паводле яго словаў, з'яўляецца тое, што «насельніцтва не ўспрымае эканамічную сітуацыю, як такую, што ўсё больш пагаршаецца, палітычную – як напружаную, але гэта тое насельніцтва, якое апускае бюлетэні ў скрыні».

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

## Збанкрутаваная эканоміка

«Цяперашні стан беларускай эканомікі сведчыць аб яе банкруцтве», – заявіў 22 лістапада на сустрэчы ў Мінску лідэраў Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) з прадстаўнікамі дыпламатычнага корпуса экс-старшыня праўлення Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч.

Паводле звестак Багданкевіча, зараз каля 40 працэнтаў беларускіх прадпрыемстваў стратныя, яшчэ трэць – маюць нізкую – да 5 працэнтаў – рэнтабельнасць. Такім чынам, сказаў ён, каля 70 працэнтаў суб'ектаў гаспадарання Беларусі можна падвергнуць працэдуры банкруцтва.

Кожнае трэцяе прадпрыемства ў рэспубліцы, паводле звестак С.Багданкевіча, не мае ўласных абаротных сродкаў і яшчэ трэць – валодаюць усяго 10-20 працэнтамі ад мінімальна неабходнай колькасці абаротных сродкаў. Адначасова з гэтым пастаянна ўзрастае крэдыторская запазычанасць прадпрыемстваў. Зараз яна складае каля 7 трыльёнаў рублёў, або амаль палову коштавага выражэння ВУП.

Пратэрмінаваныя даўгі перавышаюць 2,7 трыльёна рублёў, што, паводле словаў Багданкевіча, перавышае ўсю сукупную грашовую масу ў краіне.

Пры гэтым экс-кіраўнік Нацбанка падкрэсліў, што незалежныя эксперты ў сваіх разліках зыходзяць з тых жа паказчыкаў, што і ўрад, аднак прыходзяць да супрацьлеглых высноваў. Афіцыйныя ўлады, паводле яго словаў, гавораць аб эканамічным росце, а незалежныя эканамісты лічаць, што «гэтая эканоміка – банкрут».

**Юрый ПАЦЁМКІН**

ТРАНСПАРТ

## Аўтобусы на прыколе

У сувязі з адсутнасцю грашовых сродкаў на набыццё гаручазмазачных матэрыялаў з 24 лістапада прыпынены рух аўтобусаў па маршрутах Глуск-Бабровічы, Глуск-Карніца, Глуск-Баравішча, Глуск-Сялец, Глуск-Ратміравічы, Глуск-Кляшчоўка, Глуск-Дуброва, Глуск-Барысаўшчына, Глуск-Гарадок, Гарадскі 1 і Гарадскі 2. Такога зместу паведамленне сустракае пасажыраў на глускай аўтастанцыі. У чарговы раз адмененыя практычна ўсе ўнутрырайонныя рэйсы.

Калі адновіцца аўтобусны рух – невядома. Цяпер, каб дабрацца да Глуска з вёсак, даводзіцца браць ровар ці лавіць «папутку».

**Ігар КІРЫН**

## Янкоўскі — акадэмік

Народнаму артысту СССР Расціславу Янкоўскаму прысвоенае званне акадэміка Міжнароднай акадэміі тэатраў. Міжнародная акадэмія тэатраў створаная некалькі гадоў таму. Першым беларускім акадэмікам Міжнароднай акадэміі тэатраў стала ў свой час актрыса Стэфанія Станюта.

**Маша ПЯТРОВА**

## Напруга з кадрамі

30-40 працэнтаў кіраўніцкіх кадраў Гомельскай вобласці не адпавядаюць патрабаванням, якія прад'яўляюць сучасныя ўмовы гаспадарання да кіраўніка. Пра гэта заявіў 22 лістапада першы намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкама Аляксандр Бяляеў на паседжанні абласнога выканаўчага камітэта. Ён лічыць, што ў любой галіне «з 20 кіраўнікоў пачынае працаваць толькі адзін».

Асабліва трывожная сітуацыя складваецца ў аграпрамысловым комплексе. За апошнія тры гады змянілася 80 працэнтаў кіраўнікоў гаспадарак. Аляксандр Бяляеў лічыць, што «кіраўнікі згараюць, таму што не ведаюць, што рабіць». Але існуе і іншая тэндэнцыя. «Старшыня калгаса пачынае не з уздыму гаспадаркі, а з будаўніцтва свайго дома», – зазначыў першы намеснік кіраўніка вобласці.

Таму аблвыканкам зацвердзіў план мерапрыемстваў, разлічаных да 2010 года, па ўдасканальванні сістэмы падрыхтоўкі, падбору і расстаноўкі кадраў. Гэты дакумент прадугледжвае шматпланавую працу з наяўнымі і маладымі кадрамі. Адным з першых мерапрыемстваў службы аблвыканкама павінны разгледзець пытанне аб мэтазгоднасці знаходжання на кіруючых пасадах асобаў, якія не маюць вышэйшай адукацыі.

**Ірына ШАНЦАВА**

СЭРВІС

## Не харчуйцеся на шашы

Шматлікія парушэнні патрабаванняў санітарных нормаў, правілаў гандлю і гігіенічных нарматываў устаноўленыя падчас праверак Камітэтам дзяржкантролю па Брэсцкай вобласці прадпрыемстваў грамадскага харчавання, размешчаных на аўтатрасах.

У лютым гэтага года Брэсцкі аблвыканкам прыняў рашэнне «Аб развіцці прыдарожнага сэрвісу на тэрыторыі вобласці». Дадзеным рашэннем была зацверджаная схема развіцця аб'ектаў дарожнага сэрвісу, у якой прадугледжвалася будаўніцтва 38 аб'ектаў харчавання. Камітэт дзяржкантролю, улічваючы сацыяльную значнасць развіцця прыдарожнага сэрвісу, правёў шэраг рэйдавых праверак аб'ектаў харчавання. На момант праверак палова аб'ектаў не працавала. На сямі дзеючых аб'ектах устаноўленыя парушэнні правілаў гандлю і гандлёва-вытворчай дзейнасці. Кантралёры зафіксавалі аблічванні пакупнікоў, парушэнні патрабаванняў, прад'яўляемых да якасці прадуктаў. Кантралёры забракавалі і забаранілі рэалізоўваць харчовыя тавары, тэрмін прыгоднасці якіх закончыўся, на суму 30,7 тысячы рублёў. Устаноўленыя парушэнні касавай дысцыпліны, выяўленыя факты адсутнасці неабходнай нарматыўна-тэхналагічнай дакументацыі, у антысанітарным стане ўтрымліваюцца вытворчыя і дапаможныя памяшканні.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

ТВОРЧАСЦЬ



Унікальны балкон у адным з мінскіх дамоў. Каб знішчыць гэты непаўторны твор, міліцыя мусіла выкарастаць аўтаген

## Ці будзе ўзімку цёпла ў транспарце?

Падрыхтоўка камунальнага пасажырскага транспарту (КПТ) да зімовага перыяду ў Мінску завершаная ў запланаваны тэрмін. Пра гэта 22 лістапада паведаміў на прэс-канферэнцыі начальнік ўпраўлення транспарту і сувязі Мінгарвыканкама Ул. Сасноўскі.

Ён зазначыў, што сёння падрыхтавана да эксплуатацыі ўзімку больш за тры тысячы адзінак як наземнага, гэтак і падземнага транспарту. Падрыхтоўка, паводле яго словаў, прайшла ў дастаткова складаных фінансавых умовах. Аднак, зазначыў Сасноўскі, дзякуючы павелічэнню тарыфу на праезд у грамадскім транспарце ўдалося кампенсаваць недахоп грашовых сродкаў. Апрача таго, на прадпрыемствах КПТ створаныя неабходныя запасы аўтамабільнага паліва.

Закранаючы пытанне ацяплення транспарту, Сасноўскі падкрэсліў, што звыш сарака працэнтаў гарадскога транспарту складаюць новыя машыны, таму ўзімку ў іх будзе цёпла.

Ён таксама зазначыў, што да канца бягучага года плануецца выканаць праграму па закупцы новых аўтобусаў (200 адзінак) і трамваяў (5 адзінак). Аднак з прадугледжаных праграмай 42 тралейбусаў удасца набыць толькі 22, затое замест аднаго цягніка метро ўжо закуплены два.

**Вольга АСІПЕНКА**

ФІНАНСЫ

## Канцэпцыя развіцця банкаў

Канцэпцыя развіцця банкаўскай сістэмы Рэспублікі Беларусь на 2001-2010 гады зацверджаная Нацыянальным банкам і накіраваная на разгляд у Савет міністраў краіны. Пра гэта БелаПАН паведаміў прэс-сакратар галоўнага банка краіны Міхаіл Журавовіч.

Канцэпцыя распрацаваная спецыялістамі Нацыянальнага банка, міністэрства эканомікі, міністэрства фінансаў, банкаў, вядучых вучоных краіны і вызначае мэтавыя арыенціры, задачы і кірункі развіцця банкаўскага сектара. Яе рэалізацыя павінна прывесці да фарміравання ў Беларусі банкаўскай сістэмы, набліжанай па найважнейшых характарыстыках да банкаўскіх сістэмаў дзяржаваў, што дынамічна развіваюцца.

У мэтах павышэння функцыянальнай ролі банкаў у эканоміцы, асабліва ў фінансавай падтрымцы яе рэальнага сектара, крэдыты банкаў да намінальнага ВУП у 2005 годзе павінны скласці не менш за 26-28 працэнтаў і ў 2010 годзе – не менш за 40-42 працэнты. Пры гэтым валавыя крэдыты банкаў у беларускіх рублях і ў замежнай валюце ўзрастуць у бліжэйшае пяцігоддзе ў 8,8 раза і за 2006-2010 гады – у 2,7 раза.

**Аляксей АРЭШКА**

ГАСПАДАРКА

## Беларускія калгаснікі вучацца ў Галандыі

Кіраўнікі сарака калгасаў і саўгасаў, аграпрамысловых прадпрыемстваў і гаспадарак Беларусі, якія прадстаўляюць усе шэсць абласцей краіны, з 19 па 22 лістапада знаходзіліся з візітам у Каралеўстве Нідэрландаў, дзе пад эгідай Беларускага саюза калгасаў бралі ўдзел у семінары-вучобе.

Дэлегацыя аграпрамысловага сектара Рэспублікі Беларусь наведала міністэрства сельскай гаспадаркі, прыродакарыстання і рыбалоўства Галандыі, тры галіновыя саветы — па малочных прадуктах, па жывёлагадоўлі, вытворчасці мяса і яек, і савет вытворцаў кармоў, а таксама Нідэрландскі кансультатыўны інстытут бульбаводства, кампанію па будаўніцтве і вядзенні цяплічных гаспадарак *Van der Hoeven Greenhousebuilders bv*, фірму па вытворчасці насення і распрацоўцы насенняводчых тэхналогіяў *Rijk Zwaan Export bv*, найбуйнейшы ў Нідэрландах кветкавы аўкцыён у Наалдвайку, шэраг фермерскіх гаспадарак па жывёлагадоўлі і вырошчванні і захоўванні бульбы.

Асноўнай мэтай дадзенага семінара-вучобы з'явілася вывучэнне перадавога галандскага вопыту арганізацыі сельскагаспадарчых вытворчасцяў, выкарыстоўваемых тэхналогіяў, вырошчвання збожжавых, бульбы, агародніны, буйной рагатай жывёлы, прынцыпаў працы аграпрамысловых кааператываў Нідэрландаў, атрыманне агульнай інфармацыі аб развіцці сельскай гаспадаркі краіны, яго асобных галінаў, рэалізацыі ў Нідэрландах Агульнай сельскагаспадарчай палітыкі Еўрапейскага Саюза.

**Андрэй АСМАЛОЎСКІ**



## Рэкорд зрабіла капуста

У лістападзе цэны на асноўныя прадукты харчавання ў магазінах і на рынках Магілёва выраслі ў сярэднім на 3,4 працэнта. Да такой высновы прыйшлі спецыялісты абласнога аб'яднання прафсаюзаў пасля аналізу цэнаў у перыяд з 20 кастрычніка па 20 лістапада.

Паводле звестак прафсаюзаў, цяпер кошт набору з 25 асноўных прадуктаў харчавання з гэтак званага спажывецкага кошыка складае 43 тысячы 408 рублёў. Хутчэй за іншыя ў лістападзе раслі цэны на ялавічыну і свініну (7,7 і 10,2 працэнта адпаведна), моркву (9,3) і яйкі (7,2). Рэкорд устанавілі цэны на капусту, павялічыўшыся за справаздачны перыяд у паўтара раза. Разам з тым некалькі паменшылася сярэдняя цана на бульбу і чай.

З пачатку года кошт набору асноўных прадуктаў харчавання павялічыўся на 51,5 працэнта. Апярэджваючымі гэтую мяжу тэмпамі раслі цэны на сельскагаспадарчую і малочную прадукцыю.

**Канстанцін УВАРАЎ**

## Рэкламны кангрэс

30 лістапада – 1 снежня ў Мінску пройдзе 4-ы Беларускі кангрэс рэкламы і маркетынгу. Арганізатарам кангрэса выступіла ТАА «Агенцтва дзелавых сувязей» — адно з вядучых PR-агенцтваў Беларусі. Ідэя правядзення кангрэса падтрыманая міністэрствам прамысловасці Рэспублікі Беларусь.

Значную частку ўдзельнікаў кангрэса складуць прадстаўнікі вядучых прамысловых прадпрыемстваў. Ужо наступілі заяўкі ад такіх прадпрыемстваў, як Мінскі аўтазавод, Мінскі трактарны завод, Беларускі металургічны завод, «Белкард», «Электрамодуль» і інш. Традыцыйна ў працы кангрэса бяруць удзел кіраўнікі аддзелаў рэкламы і маркетынгу, менеджэры па рэкламе і PR, маркетолагі, сацыёлагі, капірайтэры, патэнтныя паверанyя і інш. За мінулы год на беларускім рэкламным рынку адбыўся цэлы шэраг падзеяў, якія знойдуць адлюстраванне ў праграме кангрэса: была створаная «Асацыяцыя рэкламных арганізацыяў», распачатае абучэнне спецыялістаў па праграме «Рэкламнае вымярэнне-148». Гэта унікальны вучэбны курс на 148 гадзінаў, які ўяўляе сабою поўны тэхналагічны цыкл стварэння рэкламных зносінаў або PR-акцыі.

**Маша ПЯТРОВА**

СПОРТ

## Змены ў складзе НАК

Прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта А.Лукашэнка лічыць заніжаным прагноз міністра спорту і турызму Яўгена Ворсіна аб колькасці медалёў, якія могуць заваяваць на Алімпіядзе ў Солт-Лэйк-Сіці (ЗША) беларускія спартсмены: «Тры медалі — відавочна мала. Столькі ў адным біятлоне можна заваяваць. Яшчэ чатыры могуць прынесці фрыстайлісты. Таму трэба імкнуцца да дзесятка ўзнагародаў».

На другой сесіі Алімпійскага сходу прайшлі выбары віцэ-прэзідэнтаў НАК. На тры вакансіі было вылучана чатыры кандыдатуры. Па выніках тайнага рэйтынгавага галасавання віцэ-прэзідэнтамі НАК сталі Мядзведзь (80 галасоў «за», 6 «супраць»), Аляксеенка (66 на 20) і Ананьеў (46 на 40). Кобрынскі атрымаў 44 галасы «за» і 42 «супраць».

Сход унёс змяненні ў склад НАК: выведзены 5 чалавек (у тым ліку прэзідэнт федэрацыі біятлона Уладзімір Мацкевіч, былы кіраўнік беларускага КДБ, які паехаў паслом у Югаславію) і ўведзена 13 (сярод іх Мікалай Ананьеў, новы прэзідэнт федэрацыі гандбола Юрый Кулакоўскі, прэзідэнт федэрацыі баскетбола Леў Піменаў — супрацоўнік КДБ, які заняў гэтую пасаду ў сакавіку гэтага года).

У выканкам НАК увайшлі 14 чалавек: прэзідэнт, віцэ-прэзідэнты, былы кандыдат на пасаду віцэ-прэзідэнта Міхаіл Кобрынскі, міністр спорту і турызму Яўген Ворсін, прэзідэнт Паралімпійскага камітэта Алег Шэпель, спартсмены.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

